Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 13 (64). Вільня, Серада 9 Лютага 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

# Аб арыштах у Заходняй Беларусі.

## Прамова пасла Б. Рагулі

### сказаная ў Сойме дня 4 лютага с. г.

Высокая Палата!

Ня лёгкая задача стаіць сёньня перадамной; ня лёгкая ня дзеля таго, што нямог-бы даказаць патрэбы звальненьня маіх калегаў з вастрогу, але ня лёгкая дзеля таго, што гэтая справа ўжо даўно асуджана. Калі-б усе адвакаты сьвету зьехаліся сюды, то і яны не абаранілі-б іх, дзеля таго, што вы ўжо даўно пастанавілі. Аднак-жа мушу ўзяць у гэтай справе голас і пастарацца выясьніць гэтую сытуацыю, у якой знаходзіцца Беларускі Народ і гэтаю справу, якая сёньня стаіць на парадку дня зьяўляецца дзякуючы гэтай сытуацыі.

З гэтай высокай трыбуны ня раз былі агалошаны прамовы намі, прадстаўнікамі Беларускага Народу ў польскім Сойме, ня раз мы зьвярталі ўвагу Сойму на несправядлівасьці робленыя адносна нас Беларусаў і на зламаньне рэпубліканскіх законаў падрабнейшымі ўраднікамі, прадстаўнікамі дзяржаўнай улады на нашых землях. Не адзін раз мы зварачвалі ўвагу польскіх урадаў на іх нізкавокасьць, на іх несправядлівыя адносіны да нас, больш за 2 мільённую беларускую меншасьць. Нам часта дакляроўвалі палепшаньне гэтага становішча, кожны ўрад прызнаваў за свой абавязак даваць нам абяцанку, але ні адзін з іх ня толькі недатрымаў сваіх слоў, але наадварот, яшчэ ціснуў наш народ, ламаючы яго элемэнтарныя грамадзкія правы. Але тое, што зрабіў цяперашні ўрад пераходзіць за ўсе спадзеваныя межы. Мала абурацца, мала выказваць недавер, але трэба проста і аткрыта сказаць, што для гэтага ўраду тут няма месца.

Калі ламаюць правы адносна да нашага народу, паліцыя, старасты, ваяводы, нашыя інтэрпэляцыі скіроўваюцца да міністраў, якія давалі ўрачыстыя дэклярацыі высьвятленьня, вырашэньня, а нават часам укараньня некага, хоць гэта апошняе было так рэдка, што трудна сабе прыпомніць, калі гэта было. Цяперашні ўрад здолеў перайсьці сам сябе. Гэта ўрад здолеў пры прыхільным падтрыманьні п. Маршалка Сойму ня толькі зламаць канстытуцыю, але нават справакаваць быццам загавор, нават справакаваць сам сябе. Маю тут на мысьлі справу пасла Ваявудзкага. Сёньня я выступаю ня толькі як абараніцель нашых арыштаваных таварышаў, беларурускіх паслоў, але нажаль зьяўляюся таксама няпрошаным абараніцелем польскай канстытуцыі, якая ў паняцьці цяперашняга ўраду, які прышоў да ўлады дарогай гвалту, ёсьць „сьвісткем" (клакам) паперы. Я выступаю як абараніцель польскага парлямантарызму, аб істнаваньні якога ведаем толькі з артыкулаў рэдактараў, вядучых паміж сабой споры аб яго зламаньні, або зламаньні таго, што фактычна ня істнуе. (Голас: Але Грамада істнуе). Дзела таго для нас Беларусаў, не былі неспадзяванай пастановы рэгулямінавай камісіі аб выданьні нашых таварышаў на Шэмякінаў суд. Хто-ж мог-бы падумаць, што гэты Сойм, нават будучы аплёваны ўрадам, спакойна вытрэ плеваціньне і выражаючы паслухмянасьць „Дзедку" са страхам дзіцяці, якое нарабіла глупства, працуе цяпер з урадам і пойдзе проці яго. На якой аснове ўрад, які пасылае правакатараў у наш лягер пазволіў сабе зламаць канстытуцыю? Дзе тыя прычыны, якія прымусілі ўрад арыштаваць паслоў Беларусаў, паслоў у Сойм? Дзе абараніцель пасольскай чэсьці і пасольскай нечачэпнасьці п. Маршалак Сойму? На інтэрвэнцыю п. Маршалка мы ня клалі ніякай надзеі, скарэй можам спадзявацца інтэрвэнцыі нашага народу, чымся абароны п. Маршалка. Калі-б ў Польшчы быў суд незалежны і бесстаронны, то мы самі прасілі-б аб судовым разглядзе над нашымі таварышамі, бо ў іх дзеяньнях з дзяржаўнага пункту гледжаньня ня бачым нічога карыгоднага. Калі яны змагаліся з палянізацыяй нашага народу, з абдзіраньнем яго, са зламаньнем яго элемэнтарных правоў, то яны мусілі змагацца з гэтым. У іншым выпадку былі-бы здраднікамі свайго народу. Мы таксама змагаемся з гэтым і калі іх месца ў вастрозе, то і нашае таксама, бо і мы з тымсамым змагаемся, што і яны. Іхняя справа, а разам і нашай справай, ёсьць нацыянальная беларуская; у польскія суды ня верым; да гэтага прымусілі нас польскія ўрады. Пан пракурор паставіў прапазыцыю аб выданьню беларускіх паслоў і аб уганяньні за імі судова. Проста стыдна каму небудзь паказаць гэтую прапазыцыы. На якіх фактах апіраецца п. пракурор? Ніякіх фактаў няма, толькі ёсьць пакліканьне на паказаньнях сьведкаў, а якія гэта сьведкі, то нам добра ведама. Ёсьць гэта зграя правакатараў, працуючых за юдавы грошы. Сыстэма правакацыі, даносьніцтва, лгарства і падбураньне адной часьці насяленьня проці другой, — вось вашая сыстэма працы, вось вашая сыстэма ўпраўленьня. Ці ў якой небудзь культурнай дзяржаве пазволіў-бы сабе пан пракурор у сваей прапазыцыі аб выданьні паслоў пісаць парляманту. Істнуюць паважныя „пошлякі", што ў лоне арганізацыяў, кіраваных успомненымі намі пасламі, вялося шпіонства на карысьць сумежнай дзяржавы і то на аснове нязнанага Сойму паказаньня сьведкаў. Ці гэта магчымая рэч, каб на аснове толькі дапушчэньняў можна было каго небудзь абвініць у шпіонствы і арыштаваць, а тым больш паслоў?

Высокая палата! Дапусьцім, што сярод Грамады былі шпіоны, дапусьцім... (П. Мантэрыс: пан далёка ідзе) Так, далёка іду. Але калі ў якой небудзь арганізацыі знаходзяцца такія асабістасьці, то іх пацягваецца да адказнасьці, а ня тых людзей, якія стаяць на чале той арганізацыі бо яны могуць ня ведаць (Голас: новая філёзофія). Ну, трудна, гэта ня ёсьць фэльдфэбельская філёзофія. Цяпер я скажу: сярод дзяржаўных урадвікаў ёсьць шпіоны, на чале гэтага стаіць урад, а дык урад вынікае са шпіонаў. (Голас: Што мае пернік да вятрака). Гэта ёсьць вашая лёгіка.

Такое вінавачаньне, такія прапазыцыі гэта ёсьць проста стыд і ганьба для Польшчы. Але мала гэтага. Дапусьцім, што нехта з паслоў зрабіў які небудзь праступак; калі яго можна арыштаваць?

Арт. 21 канстытуцыі на столькі ёсьць ясным, што не патрабуе ніякіх камантараў (паясьненьняў) Арт. 21 кажа: пасла можна арыштаваць на гарачым чыне паспалітай зброднi.

Зусім разумею аб што тут ходзіць. Ходзіць аб паспалітай (агульна прызнаванай) зброднi. Калі пасол даканаў якое небудзь забойства і г. д, то ў гэткім выпадку, каб ня быў згублены сьлед праступку, можна яго пацягнуць да адказнасьці. Але які тут быў гарачы чын? Грамада істнавала больш як паўгоду, і знайшоўся гарачы чын. Пасол Валожын ляжаў у ложку, гэта значыць на гарачым чыне. (Вясёласьць). Шаноўныя паны! Ня хачу гаварыць так, каб Вы сьмяяліся, але гэта ёсьць сьмешная рэч. Ведаю, што пасол Тарашкевіч так сама ляжаў у ложку. А як гавораць сяляне, ня ведаю ці гэта праўда, пас. Галавач даіў сваю ўласную карову (вясёласьць). Гэта была паспалітая зброднія. (Голас: Бальшавіцкую карову даіў).

(Далей будзе)

## Сойм выдаў суду арыштаваных паслоў.

На паседжаньні Сойму 1 г. лютага апрача бюджэту была разглядана справа выдачы арыштаваных паслоў. Ад імя рэгулямінавай камісіі справу арыштаў паслоў рэфэраваў Дабжанскі. У часе сваей прамовы ён абвясьціў ліст пракурора віленскага апэляцыйнага суда аб выданьні суду паслоў Тарашкевіча, Рака-Міхайлоўскага, Мятлы і Галавача. Апошнія вінавацяцца па 102 ст. ч. І-я і 110 ч. І-я 2 пар. К. К. за тое, што працуючы супольна з іншымі асобамі быццам бралі павадырскі ўдзел ў арганізацыях польскай партыі камуністычнай як і камуністычнай партыі ЗБ. Таксама і за тое, што быццам па загаду цэнтральнага камітэту тых партыяў стварылі скаордынаваную (добра згаворaную) групу, якая кіравала работай палітычных групаў як Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада і „Niezależna Partja Chłopska" і пры гэтым мелі нібы на мэце выкарыстаць гэтыя групы дзеля мэтаў суседняй дзяржавы, падгатаўляючы ўзбраенае паўстаньне з мэтай скінуць істнуючы ў Польшчы дзяржаўны лад і адарваць ад Рэспублікі часьці яе тэрыторыі. Акцыя гэтая быццам знаходзіцца ў сувязі з акцыяй міжнароднай камуністычнай партыі і мае над сабой надзор і павадырства польскай камуністычнай нартыі, якая залежыць ад камінтэрну.

Рэгулямінавая камісія атрымала нібы ясныя справаздачы і матэр'ялы аб дзейнасьці 5-х паслоў на тэрыторыях 5-х судовых вокругаў на ўсходзе. Са справаздачаў тых відаць, што нібы Грамада падгаварывала да процідзяржаўнай дзейнасьці, а абвінавачаныя таксама нібы належалі да камуністычнай партыі, бяручы Грамаду толькі як помаст дзеля лягчэйшай работы, бо Грамада істнавала яўна. Стварылася, быццам, шпікоўская шайка, працуючая на карысьць суседняй дзяржавы, у згаворах з салдатамі аднаго пагранічнага батальёну. Сьведчыць гэта аб тым, што нібы салдаты таксама вэрбаваліся на процідзяржаўную работу. Гурткі вялі нібы вайсковыя муштры, мелі аружжа і разносілі весьці, што да Вялікадня ўздойміцца рэволюцыя, Беларусь будзе аддзелена і грошы ўжо на гэта істнуюць. Усе нібы паказаньні сьведкаў пяцьверджаюць гэта; арыштаваныя паслы быццам яўна гутарылі аб паўстаньню на вясну пры згаворах з Расеяй і за яе грошы. Грамада налічала болей як 61 тыс. сяброў. Падвучала нібы забіваць паліцыянтаў, засыпаць урады скаргамі каб іх збаламуціць, на кліч паўстаньня перацяць чугуначную лучнасьць. Як Грамадой таксама і Niez. P. Chł. нібы ўпраў-

# Сабраньне дэлегатау Віленскага Аддз. Інстытуту.

## А) ПАРАДАК САБРАНЬНЯ.

У нядзелю 6-га лютага адбылося сабраньне дэлегатаў Віленскага Аддзелу Інстытуту. Прысутных па сабраньні было 30 асоб, з якіх ад гурткоў 17 асоб, ад ураду Віленскага Аддзелу 4 асобы, ад Цэнтралі 2 асобы і 7 звычайных сяброў.

Сабраньне адчыніў старшыня ўраду Віленскага Аддзелу кс. пас. А. Станкевіч, які ў сваёй прамове падчыркнуў вялікае значэньне ў беларускім адраджэньні Інстытуту, як культурна-гаспадарчай установы.

На старшыню сабраньня быў выбраны сябра рэвізыйнае камісіі пас. Б. Рагуля, на сэкрэтара гр. А. Стэповіч.

Далей кс. Станкевіч даў справаздачу з працы ўраду Віленскага Аддзелу Інстытуту, а гр. Більдзюкевіч кароткі агляд працы ўсяго Інстытуту. Інстытут залажыў 50 гурткоў і мае каля 800 сяброў, заложаны 22 бібліатэчкі і ўтрымліваецца адна прыватная беларуская школа. Атрыманы канцэсіі на 6 прыватных беларускіх школаў, з якіх толькі адна школа функцыянуе, бо ў іншых дагэтуль не зацьверджаюцца вучыцялі. На больш школ Інстытут не атрымаў ад уладаў канцэсіяў, хаця заявы былі паданы да паасобных інспэктараў. Таксама Інстытут не атрымаў дагэтуль дазволу на беларускую вучыцельскую сэмінарыю і на беларускія 6-месячныя вучыцельскія курсы. Толькі апошнімі днямі Інстытут атрымаў дазвол на Беларускія Коопэратыўна-Гандлёвы Курсы ў Вільні, якія мае адчыніць каля 20 лютага.

На сабраньні дэлегаты прытачалі факты перасьледаваньня паліцыяй і адміністрацыяй Гурткоў Інстытуту, нягледзячы на тое, што яны не вядуць ніякай палітыкі. З такімі адносінамі ўлады да беларускае культурна-гаспадарчае арганізацыі Інстытут будзе змагацца, бо яны зьяўляюцца бяспраўнымі.

Пасьля дакладаў дэлегатаў быў намечаны плян далейшай працы Інст., а таксама прадыскутаваны вольныя прапазыцыі.

У часе пярэрвы былі апрацаваны рэзалюцыі і пасьля ўзнаўленьня сабраньня апрацаваныя рэзалюцыі былі прыняты сабраньнем разам з запрапанаванымі папраўкамі.

## Б) ПЕРАВЫБАРЫ УРАДУ.

У склад новага ўраду Віленскага Аддзелу Інстытуту на сабраньні дэлегатаў выбраны такія асобы: д-р Б. Туронак, пас. Ф. Ярэміч, пас. кс. А. Станкевіч, інж.-арх. Л. Дубейкоўскі і гр. Каруза, у заступнікі гр. А. Стэповіч і Яцына.

## В) РЭЗАЛЮЦЫІ.

Сабраньне дэлегатаў Віленскага Аддзелу Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры прыняло аднагалосна наступныя рэзалюцыі:

### I. Культурна-асьветныя справы.

1. Сабраньне дэлегатаў Віленскага Аддзелу Інстытуту дамагаецца ад уладаў беларускіх урадовых і прыватных школ.
2. Сабраньне дамагаецца субсыдыяў для істнуючых 4-х прыватных Беларускіх гімназіяў.
3. Сабраньне дамагаецца правоў публічнасьці для абсольвэнтаў беларускіх гімназіяў.
4. С. дамагаецца беларускай вучыцельскай сэмінарыі і вучыцельскіх курсаў, для беларускіх вучыцялёў.
5. С. дамагаецца беларускага гуманістычнага факультэту на Віленскім унівэрсытэце з беларускаю выкладовою моваю.
6. С. дамагаецца для існуючых беларускіх вучыцялёў, якія акончылі сэмінарыю, ці роўназначныя вучыцельскія курсы, або мелі тытул (званьне) вучыцеля, вучыцельскай кваліфікацыі, як на пасады ўрадовыя, так і прыватныя беларускія школы.
7. С. дамагаецца перэнясеньня дзейных вучыцлёў Беларусаў з абшараў этнаграфічнае Польшчы ў Заходнюю Беларусь у беларускія ўрадовыя школы, якія павінны быць пазакладзены на аснове жаданьня бацькоў дзяцей школьнага веку.
8. С. дамагаецца ад ураду задавальваючых крэдытаў на выдавецтва беларускіх падручнікаў гражданкай і лацінкай і наагул беларускіх кніг.

### II. Гаспадарскія справы.

9. Сабраньне дэлегатаў Віленскага Аддзелу Інстытуту дамагаецца ад ураду крэдытаў для сялян беларусаў на закуп насеньня, штучных гнаёў і патрэбнага інвэнтара.
10. С. дамагаецца крэдытаў для заснаваньня Беларускім Інстытутам Гаспадаркі і Культуры коопэратываў крэдытовых і спажывецкіх.
11. С. дамагаецца задавальваючых крэдытаў для заснаваньня Беларускага Парцэляцыйнага Банку.

### III. Арганізацыйныя і іншыя справы Інстытуту.

12. Заслухаўшы даклад паасобных дэлегатаў, сабраньне дэлегатаў Віленскага Аддзелу Інстытуту пастанаўляе зьвярнуцца да Беларускага Пасольскага Клюбу з просьбай аб інтэрвэнцыі з прычыны featureзнага характару перашкодаў, што ставяць мясцовыя ўлады ў працы Гурткоў Інстытуту.
13. Сабраньне пастанаўляе выдаваць сваю часопісь—орган Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.
14. Сабраньне пастанаўляе заангажаваць інструктара-агранома.
15. Сабраньне заклікае ўрад Віленскага Аддзелу Інстытуту да інтэнсыўнай працы маючы на ўвеце якнашырэйшае выкарыстаньне Статуту Інстытуту.

[redacted]

ляла скрыта камуністычная партыя. Павадыром Niez. P. Chł. быў выбраны *Ваявудзкі*, але не адразу. Спачатку камінтэрн не згаджаўся на яго асобу дзеля ягонай прошласьці; назначылі яго толькі тады калі ён падаў пісьменныя аб'ясьненьня і прырок ставіцца на суд рэволюцыйнага трыбуналу ў Маскве і калі далі аб ім публічную рэкамэндацыю паслы: Тарашкевіч і Рак-Міхайлоўскі.

### Дыскусыя.

У дыскусыі над пытаньнем ці выдаваць суду паслоў гаварылі: пас. *Рагуля* проці выдачы, п. Шрайбэр (жыд. кола) які, гаворучы проці выдачы, падтрымліваў прапазыцыю меншасьцяў, п. Марвэг (эндэк) за выдачай, п. Балін (Н. П. Хл.) проці выдачы, п. Сахацкі (кам.) проці выдачы, п. Лібэрман (П. П. С.) за выдачай, п. *Ярэміч* проці выдачы, п. Строньскі (Х. Д.) за выдачай. Посьле дыскусыі маршалак аддаў пад галасаваньне фармальную прапазыцыю п. Шрэйбэра (Жыд. Кола) аб перадачы справы арыштаваных паслоў ізноў да рэгулямінавай камісыі, якая мелася-бы стварыць спэцыяльную падкамісію з трох паслоў і якая ўзяла-бы на сябе заданьне падрабязна разглядзець справу. За гэтай прапазыцыяй галасавала 106 паслоў, проці 163. Прапазыцыю адкінулі. Посьле галасаваньня меншасьці ўзьнялі забурэньне і маршалак распарадзіўся каб пачаць паіменнае галасаваньне: спярша аб выданьні суду пасла Тарашкевіча, потым Рак-Міхайлоўскага, Мятлы, Валошына і Галавача. Тады, калі сталі падлічаць галасы, маршалак перайшоў да галасаваньня аб рэзалюцыі Шрэйбэра, якая была супольна з першай часьцінай рэзалюцыі Сохацкага. Рэзалюцыя гэная вытыкала, што арыштаваньне 5-ці паслоў без папярэдняй згоды Сойму зроблена было проці арт. 21 канстытуцыі. Перад гэтым галасаваньнем маршалак зьвярнуў увагу, што ёсьць прыгавар акруговага суду, на жалабы трох арыштаваных паслоў. Сойм можа выдаць рэзалюцыю так як справа стаіць цяпер, але гэткая рэзолюцыя будзе мець значэньне толькі тэорэтычнае. Пры галасаваньні рэзалюцыя большасьцяй галасоў была адкінута. Посьле дваццаціхвілінутнай перадышкі, калі скончылі падлічыць галасы маршалак абвясьціў гэткі вынік: за выданьнем суду п. Тарашкевіча 159 гал., проці 89, няважных 12; за выданьне Рак-Міхайлоўскага 165 гал., проці 83, няважных 11; за выданьне Мятлы 166, проці 83, няважных 4; за выданьне Валошына 165, проці 85, няважных 9; за выданьне Галавача 165, проці 87, няважных 10.

Такін чынам, польскі Сойм выдаў беларускіх паслоў польскаму суду.

### Пасол Хамінскі бароне арыштаваных паслоў.

Пасол Хамінскі выйшаў з Клюбу Працы, аб'ясьняючы гэтае выступленьне тым, што Клюб забараніў яму галасаваць проці выданьня арыштаваных паслоў. Трэба зацеміць, што за выданьне паслоў галасаваў разам з другімі сябрамі Клюбу Працы віцэ-прэм'ер Бартэль, які меў права голасу як пасол.

---

# Як упісацца у Беларускі Сялянскі Саюз.

Падпішчык, які добра зразумеў, што Беларускі Сялянскі Сяюз зьяўляецца партыяй, якая запраўды адважна бароніць інтэрэсы нашага сялянства, павінен неадкладна ўпісацца ў свой Саюз. З гэтае мэтай трэба паслаць у Цэнтральны Камітэт аткрытку (Вільня, Завальная 6—5) з просьбай прыслаць блянкеты заявы і анкеты, інструкцыі і праграму.

# З жыцьця пад Польшчай.

### Крывавая дэманстрацыя ў Косаве на Палесьсі.

З Брэста прыходзяць гэткія весткі:

3-га г. лютага ў 1-ай гадзіне папал. на на рынку ў Косаве сабраўся народ у ліку каля 400 асоб. Быў тады дзень тарговы і ніхто ня зварачваў увагі ня гэтае зборышча. Але скора зьявіліся над таўпой тры вялікія сьцягі з процідзяржаўнымі надпісямі, паміж іншым такімі: Хай жыве ўсясьветная рэвалюцыя і ўрад пралетарыяту, хай жыве КПЗБ (Комуніст. Партыя Зах. Бел.), хай жыве комінтэрн, хай жыве пролетарская моладзеж і яе ўрады КПСМЗБ (Ком. Пар. Саюзу Мол. Заходн. Белар.), хай жыве работніцка-сялянскі ўрад, прэч з рэпрэсіямі, звольніць работніцка-сялянскіх паслоў, звольніць усіх палітычных вязьняў і г. д.

Скора сталі наладжываць паход, з натоўпу пачуліся процідзяржаўныя выкрыкі. Паліцыя з павят. камэндантам на чале старалася разагнаць натоўп і адабраць сьцягі. Натоўп не паддаўся і закідаў паліцыю палкамі і каменьнямі. Паліцыя мусіла адступіць. Калі ніякія загады не памагалі, камэндант распарадзіўся страляць усім у паветра дзеля страху. Гэта не памагло. Тады камэндант, відзячы напор таўпы на паліцыю, выдаў загад страляць у яе. Па першай стральбе (сальве, залпу) таўпа напірала, тады была дана другая і толькі посьле гэтага натоўп быў змушаны перастаць дэманстрацыю. Забітых 3, цяжка раненых 3 і лёгка 4. Адзін з цяжка раненых памёр у шпіталі.

У гэтым паходзе была сялянская моладзь з бліжэйшых вёсак. Праз чатыры гадзіны ў Косаў прыехаў палескі ваявода Крагельскі і камэндант дзяржаўнай паліцыі Людвікоўскі, а таксама прадстаўнікі пракуратуры, маючы на мэце зараз-жа зрабіць сьледзтва, прычым арыштавана 10 асоб.

### З Сойму.

На паседжаньні Сойму 3 г. лютага быў разгляданы бюджэт ваеннага міністэрства. Рэфэрэнт пас. Косьцялкоўскі (Клюб Працы) падчыркнуў, што ў апошніх гадах ваенны бюджэт быў з году на год паменшаны і кіраваўся не патрэбамі арміі, толькі фінансавым палажэньнем дзяржавы. Бюджэт 1927/8 году зьменшыўся на-палавіну, раўняючы яго з бюджэтам 1925 году. Пасол Лібэрман сказаў, што ППС падала прапазыцыю аб абніжэньне арміі да 50.000 ваякаў, што магло-бы даць зьберажэньне 58 міл. зл.

### Праекты самаўрадавых законаў.

Віцэміністар унутраных справаў Ярошынскі прыслаў да павадыра соймавай адміністрацыйнай камісіі п. Путка ліст, у якім дамагаецца выстаўленьня на парадак дня прапазыцыі, што падалі ў сьнежні „Вызваленьне" і хлопскі саюз. Гэная прапазыцыя зьмяшчае проект новага выбарчага парадку, які трэба было-б увясьці ў гмінах Галіцыі напрыклад падобнага ўжо істнуючага ў конгрэсоўцэ. Гэтая ўстава давала-бы ўраду ўпаважненьні праводзіць новыя выбары па дасёляшняй ардынацыі.

Пры гэтым п. Ярошынскі выказвае пажаданьне, каб справа з прапазыцыяй была скончана якнайхутчэй, бо ўрад ня хоча доўга чакаць у гэтым годзе і зрабіць новыя выбары. Ліст гэты паказвае якія настроі пануюць ува ўрадзе. Мусіць хацелася-бы ўраду, апіраючыся на выбарах да самаўрадаў, праканацца ў настроях грамадзянства.

### Зьмяншэньне кары за падаткавыя нядоімкі.

Маючы на мэце палягчыць сплату падаткавых нядоімкаў міністэрства скарбу апіраючыся на 4 арт. 4 уставы 31 ліпня 1924 г. выдала распараджэньне, каб ад усялякіх усносаў, якія будуць уваходзіць ад 1 лютага да 31 сакавіка с. г. на рахунак неадложаных і неразложаных на раты нядоімак у бяспасярэдніх падатках і штэмплявых сплатах, ня гледзячы на тое, калі яны паўсталі, былі браны кары за апазьненьне вялічынёй 2% памесячна, лічучы ад прызначаннага тым нядоімкам тэрміну платы.

Пасьля гэтага тэрміну гэта знача, пачынаючы ад 1-га красавіка с. г. пры выплатах вышэйпаказаных нядоімак кары за апазьненьне будуць брацца ў поўнай вялікасьці г. зн. па 4% памесячна, рахуючы ад тэрміну платы.

---

СЯЛЯНЕ!

Аб усіх крыўдах, аб зьдзеках адміністрацыі і аб вашым жыцьці пішыце ў сваю газэту „Сялянскую Ніву".

---

